

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№6 (224) КРАСАВІК 2017 ГОД


РЫНАК ПРАЦЫ

## РЭКОРДНАЯ КОЛЬКАСЦЬ ВАКАНСІЙ

**Усяго па стану на канец сакавіка ў базе даных Дзяржаўнай службы занятасці па Шумілінскаму раёну маецца 80 вакансій. Пры гэтым болей за трэць прапануемых свабодных рабочых месцаў прадстаўлена сельскай гаспадаркай.**

Па даўняй «традыцыі» сельгаспрадпрымствы Шуміліншчыны па-ранейшаму адчуваюць востры недахоп у кадрах. Да прыкладу, саўгас «Ульскі» запрашае на пасаду галоўнага бухгалтара с вышэйшай адукацыяй, якому абяцаюць аклад за месяц у 500 рублёў.Яшчэ двух бухгалтараў чакаюць у ААТ «Ляжні» і саўгасе «Сіроцінскі». Аклады ад 270 да 300 рублёў.

Пасада ветэрынарнага ўрача запатрабавана ў ААТ "Прыдзвінскі«(Крывое Сяло) с акладам у 400 рублеў. Саўгас «Сіроцінскі» мае вакансію ветэрынара с вышэйшай адукацыяй у 300 рублёў. Яшчэ адна свабодная вакансія галоўнага ветурача ёсць у «Райаграсервісе» — аклад 350 рублёў. Аднаго галоўнага эканаміста з вышэйшай адукацыяй чакае саўгас «Ульскі» (аклад 500 рублёў), яшчэ адзін знойдзе працу ў сялянска-фермерскай гаспадарцы «Крыніца» Юрыя Сямёнава (аклад ад 400 рублёў).

Апроч таго, у іншых гаспадарках раёна патрабуюца два галоўныя заатэхнікі, галоўны інжынер, вядучы заатэхнік, галоўны энергетык, , аграном, юрысконсульт, інжынер па ахове працы, інспектар па кадрах, спецыяліст, спецыяліст па кадрах.

3 рабочых спецыяльнасцей ёсць вакансіі пяці аператараў машыннага даення. Іх прымаюць на работу ў саўгасе «Сіроцінскі» і ААТ Прыдзвінскі«. Заробкі абяцаюць ад 265 да 300 рублёў. Два трактарысты знойдуць пастаянную працу: адзін у саўгасе «Сіроцінскі» (265 рублёў), а другі зможа ўладкавацца ў Шумілінскае ПМС (350 рублёў). Свабодная вакансія вадзіцеля маецца ў саўгасе «Сіроцінскі» (265 рублёў).

У Шумілінскай цэнтральнай раённай бальніцы таксама не хапае кадраў: трох урачоў-спецыялістаў, пяць фельчараў, трох медсясцёр і дзве акушэркі.

Райспажывтаварыства запрашае на работу дзевяць прадаўцоў, сакратара і кладаўшчыка.

На Обальскім керамічным заводзе патрабуюцца бухгалтар (320 руб.), сакратар (300 руб.), слесар па кантрольна-вымяральных прыборах і аўтаматыцы 5 разраду (290 руб), вадзіцель пагрузчыка 4 разраду (280 руб.), вадзіцель аўтамабіля 5 разраду (290 руб.), тынкоўшчык 4-5 разраду, электраманцёр па рамонце і абслугоўванні электраабсталявання 5 разраду.

Аддзелу адукацыі, спорту і турызму райвыканкама патрабуюцца інжынер-цеплатэхнік, музычны кіраўнік (265 руб.), педагог-псіхолаг (290 руб.). Аддзелу ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама — тры акампаніятары, тры кіраўнікі гурткоў і два мастацкія кіраўнікі ( ад 265 руб.).

Дарэчы, калі чалавек шукае працу і не можа яе знайсці, то зараз мясцовыя ўлады самі пайшлі насустрач — пачалі ладзіць «Кірмаш вакансій». Нядаўна ў Шуміліне ў Доме Саветаў і прайшоў такі кірмаш, які быў ініцыяваны ўпраўленнем па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама. 16 прадстаўнікоў ад арганізацый і прадпрыемстваў Шумілінскага раёна завіталі ў пошуках работнікаў — у сваю чаргу каля 70 чалавек беспрацоўнага люду прыйшлі сюды ў пошуках працы. Да таго ж прысутнічалі тры кіраўнікі з гаспадарак раёна, аднак на жаль, яны нагледзелі для сябе літаральна некалькі чалавек, а кіраўнік «АграБаравінкі» Уладзімір Арлоў увогуле не знайшоў ніводнага талковага работніка. Па-першае, шмат шумілінцаў трапілі на кірмаш без прафесіі ці спецыяльнасці, не маючы годнай адукацыі, па-другое, было нямала і такіх, якія былі ў свой час звольнены па артыкулах і маюць адпаведныя запісы ў працоўнай кніжцы.

Як бы там ні было, але сітуацыя ў з працаўладкаваннем у Шумілінскім раёне застаецца пакуль што напружанай, нягледзячы на высілкі мясцовай улады.

**Алесь Шумскі**

НАША СПАДЧЫНА

## НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ШУМІЛІНЕ

**6-7 красавіка ў Шуміліне ўпершыню адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Шумілінскія чытанні», прысвечаная старажытнай гісторыі раёна.**

У рабоце канферэнцыі, якая праводзілася з нагоды адкрыцця археолагаў у Кардоне, бралі ўдзел навуковыя супрацоўнікі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, выкладчыкі Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава, краязнаўцы з Шумілінскага і Віцебскага раёнаў.

У актавай зале СШ № 1 г. п. Шуміліна сабраліся педагогі ўстаноў адукацыі раёна, краязнаўцы, аматары гісторыі, вучні. Такі прадстаўнічы навуковы форум упершыню праводзіцца ў нашым раёне і застанецца значнай падзеяй у яго гісторыі. Адкрыцці археолагаў у Кардоне маюць вялікае значэнне ў гісторыі нашай краіны, невыпадкова гэтая археалагічная знаходка ўвайшла ў ТОП-10 дасягненняў беларускіх навукоўцаў у 2016 годзе.

Загадчык Цэнтра археалогіі і старажытнай гісторыі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар В. М. Ляўко падзякавала кіраўніцтву раёна за падтрымку ў правядзенні канферэнцыі і ўручыла падзякі Інстытута гісторыі І. І. Шалахавай і начальніку аддзела арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама В. А. Емяльянаву.

У 2016 годзе навукоўцы разам са студэнтамі гістфакаў БДУ і ВДУ імя П. М. Машэрава правялі першы сезон раскопак. Знойдзена больш за 600 індывідуальных знаходак на плошчы раскопак 380 кв. м. Гэта дазваляе сцвярджаць, што паміж вёскамі Кардон і Ілава знойдзена буйное пасяленне эпохі вікінгаў, якое ўключала ў сябе ўмацаванае пасяленне вікінгаў — гарадзішча і два селішчы, паведаміла Вольга Мікалаеўна. Каля гарадзішча існавала прыстань для невялікіх караблёў і лодак, выяўлены курган дыяметрам каля 20 метраў і вышынёй да трох метраў. Культурны слой невялікі (40-60 см), але вельмі насычаны прадметамі IX-X стагоддзяў.

Знаходкі дазваляюць сцвярджаць, што на гэтым месцы існавала гандлёва-рамеснае пасяленне: візантыйскія і арабскія манеты, гіркі, вагі, фрагменты конскай вупражы, гузікі, крыжыкі, падвескі для ўпрыгажэнняў і адзення, накладкі на паясы, а таксама загатоўкі і матрыцы для вырабаў. Плавільныя тыглі і печы сведчаць пра актыўны гандаль і рамесную дзейнасць. У Кардоне знойдзены прадметы і манеты, якія маюць паходжанне заходнеславянскае, візантыйскае, скандынаўскае, арабскае, булгарскае, нават ёсць рымскія манеты I–II стагоддзяў нашай эры. Гэта яскравае сведчанне развітых гандлёвых сувязяў паселішча. Паселішча доўгі час існавала ў згодзе з мясцовым насельніцтвам — сярод знаходак толькі адзін наканечнік стралы.

Паселішча развівалася яшчэ да ўзнікнення дзяржаў, гэта паселішча раннедзяржаўнага тыпу эпохі вікінгаў, адзначыла В. М. Ляўко. Прычым вікінгі — гэта не толькі выхадцы са Скандынаўскага паўвострава, сюды пранікалі і прадстаўнікі германскіх і заходнеславянскіх плямёнаў, якія жылі на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. Іх прываблівала магчымасць гандлю і «шлях з варагаў у грэкі». Гэта не быў нейкі адзіны шлях. Можна гаварыць пра разгалінаваную сетку шляхоў, якія вялі па рэках з басейна Балтыйскага мора ў басейн Чорнага. Можна лічыць, што Кардон знаходзіўся на адным з іх, больш раннім — VIII–IX стагоддзяў.

На канферэнцыі прагучалі выступленні краязнаўцаў, якія па меры сваіх сіл і магчымасцяў таксама вядуць даследаванні малой радзімы, раскрываюць і папулярызуюць яе гісторыю. Да прыкладу, Загадчык аддзела краязнаўства і археалогіі Інстытута гісторыі А. Б. Доўнар прадставіў даклад «З гісторыі магдэбургскага права на тэрыторыі Шумілінскага раёна: прывілей на магдэбургскае права Сіроціну (Міхалаву) 1767 года». Ён расказаў пра гісторыю атрымання мястэчкам Сіроціна Магдэбургскага права, герба, які зараз з'яўляецца гербам нашага раёна.

Па выніках канферэнцыі будзе выдадзены зборнік матэрыялаў.

**Алесь Прыбярэжны**



ІНВЕСТЫЦЫІ

## АДКРЫЮЦЬ НОВЫ ШВЕЙНЫ ЦЭХ

**Прадстаўнікі расейскай «Фабрыкі Шарм» плануюць стварыць рабочыя месцы ў Обалі. Мяркуецца, што швейнае прадпрыемства ўжо запрацуе з 1 ліпеня.**

Як вядома, прадстаўнікі ААТ «Фабрыка Шарм» (Расія) маюць намер адкрыць у Обалі цэх па пашыве трыкатажных вырабаў. Менавіта таму дырэктар Баранавіцкай швейнай фабрыкі Таццяна Андрушчышына, перад якой стаіць задача наладзіць у Обалі вытворчасць, расказала абальчанам пра прадпрыемства ў цэлым. Фабрыка, якая ў рамках пашырэння вытворчых пляцовак плануе адкрыць цэхі ў Обалі і Лёзне, выпускае прадукцыю пад вядомым брэндам «ТВОЁ». Гэта бавоўняная вопратка спартыўнага стылю, што карыстаецца асаблівым попытам сярод моладзі. У асноўным работа прапануецца для жанчын: прадпрыемства гатова набраць 236 швачак. Але апроч іх патрэбны ўпакоўшчыкі, кантралёры, грузчыкі, іншы персанал, і галоўнае — інжынерна-тэхнічныя работнікі.

Работнікам абяцаюць гарантаваную своечасовую заработную плату, сацыяльны пакет, графік работы з 8.00 да 16.30, водпуск у летні час. Што тычыцца зарплаты, то ў сярэднім швачкі зарабляюць 550 рублёў, але ў асабліва руплівых і спрытных зарплата даходзіць і да 900 рублёў за месяц. Дысцыпліна, адказнасць, работа на план — вось галоўныя крытэрыі работы на вытворчасці.

Швачкі патрабуюцца не ніжэй за 3 разраду. Калі жанчына больш за 20 год не працавала па прафесіі, то яна лічыцца згубіўшай кваліфікацыю. Для такіх, і для тых, хто прафесіі не мае, упраўленнем па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама будзе наладжана навучанне. Само навучанне, праезд і пражыванне для жадаючых бясплатныя. А практыку можна будзе прайсці ўжо прама на прадпрыемстве.

Для таго, каб выявіць здольных сесці за швейную машынку, было наладжана спецыяльнае тэсціраванне. Дарэчы, абсталяванне, якое будзе ўстаноўлена ў Обалі, новае і сучаснае.

**Ян Вайтовіч**

МУЖНАСЦЬ

# ПОДЗВІГ САЛДАТА

**Як дэсантнік выратаваў жыццё таварышу на вышыні 100 метраў падчас скачка з парашутам на Шумілінскім палігоне.**

Брэсцкі салдат тэрміновай службы Дзмітрый Страчук здзейсніў, без перабольшання, подзвіг падчас навучальнага скачка з парашутам. Двое ваеннаслужачых сутыкнуліся ў паветры, і ваеннае вучэнне ледзь не скончылася трагедыяй.

Кошт ішоў на секунды. Аднак салдаты не разгубіліся і змаглі прызямліцца. Падчас жорсткай пасадкі радавы Страчук артымаў толькі драпіны, а вось яго калегу пашанцавала менш. Цяпер ён знаходзіцца ў адным з мінскіх шпіталяў.

Але тады ён нават не паспеў спалохацца. Той скачок салдат тэрміновай службы Дзмітрый Страчук запомніць на ўсё жыццё. Ваенныя вучэнні праходзілі на палігоне ў Шумілінскім раёне і, калі б не рэакцыя Дзмітрыя, маглі б скончыцца трагедыяй. Нештатная сітуацыя здарылася, калі да зямлі заставалася каля 100 метраў, вецер рэзка змяніў напрамак, і двое таварышаў па службе сутыкнуліся ў паветры. Купал аднаго з парашутаў склаўся, Дзмітрый імгненна зрэагаваў і падхапіў таварыша.

Дзмітрый Страчук, вайсковец 38-й асобнай гвардзейскай дэсантна-штурмавой брыгады: «Яго парашут загасіўся, і мы разам з ім проста пачалі падаць уніз. Тым часам ён ужыў свой запасны парашут, які і дапамог нам разам з ім прызямліцца».

Зараз яго таварыш Яўген знаходзіцца ў адным з мінскіх шпіталяў. Але, па словах медыкаў, ідзе на папраўку. У роднай вёсачцы Камароўка Брэсцкага раёна Дзмітрыя лічаць героем. Мама салдата, Наталля Міхайлаўна, працуе паштальёнам і пра тое, што адбылося, даведалася з газеты.

Наталля Страчук, жыхарка в. Камароўка: «Чытала я, вядома, са слязамі аб тым, што здарылася. І казала "дзякуй Богу, што толькі засталіся жывыя!". Мы не думалі, што ён так ... хаця ён казаў "мама, я не ведаў, што будзе, я жыццё яму ратаваў"».

Цяпер газетную выразку захоўваюць як сямейную рэліквію. І чакаюць вяртання героя дадому. Як распавялі ў 38-й гвардзейскай дэсантна-штурмавой брыгадзе, да нештатных сітуацыях у небе салдат рыхтуюць кожны тыдзень: заняткі па імітацыі скачкоў праходзяць на спецыяльных трэнажорах. Па словах спецыялістаў, мінімальная вышыня, пры якой трэба раскрыць запасны парашут, – 100 метраў. Калі дёрнуть за кольцы пазней, шанцы выжыць – мінімальныя. І ўсё ж дэсантнікам пашанцавала, купал іх запаснога парашута раскрыўся ў 60 метрах ад зямлі. І тое, што яны змаглі шчасна прызямліцца, спецыялісты называюць цудам.

Генадзь Лашкевіч, начальнік паветрана-дэсантнай службы 38-й асобнай гвардзейскай дэсантна-штурмавой брыгады: «Склаліся купалы. Спачатку ў верхняга парашутыста, потым – у ніжняга. Тут абодва яны вартыя подзвігу. Асобна ацэньваць становішча складана, таму што два парашутыста дзейнічалі ў адной сітуацыі і разам прымалі правільныя рашэнні».

Кіраўніцтва 38-ай брыгады звярнулася ў Міністэрства абароны з хадайніцтвам ўзнагародзіць салдат. Дарэчы, гэта ўжо не першы падобны выпадак у гісторыі сучаснай беларускай арміі. У 2004-м вайсковец 5-ай асобнай брыгады спецыяльнага прызначэння падчас навучальных заняткаў таксама выратаваў свайго таварыша. І быў узнагароджаны медалём "За адвагу". У Змітра Страчука цяпер – два дні нараджэння. Да заканчэння службы салдату застаўся ўсяго месяц, і пасля дэмбеля ён перш за ўсё вырашыў сустрэцца з калегам Яўгенам, якога з гэтага часу лічыць братам.

*Пераклад з расейскай рэдакцыі*

**ont.by**

КРЫМІНАЛ

# ПРАЗ ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ

**Забойства віцебскай школьніцы раскрылі праз 25 гадоў. Забойца дзяўчынкі пражываў у Шумілінскім раёне.**

У Віцебску раскрылі забойства трэцякласніцы Валі Скварцовай, якую забілі ў верасні 1991 года, калі яна вярталася са школы дадому. Мяшок з целам дзяўчынкі знайшлі на трэці дзень пасля знікнення за школьнымі гаражамі. Аказалася, што дзяўчынку згвалтавалі і задушылі. Расследаванне справы прыпынілі ў 1994 годзе, праведзеная ў 2007 годзе генатыпаскапічная экспертыза спермы таксама не дала выніку.

Вераснёўскім вечарам 1991 гады ў вучаніцы віцебскай сярэдняй школы № 3 Валі Скварцовай (імёны дзеючых асоб зменены) заняткі скончыліся каля 17.00. Трэцякласніца склала падручнікі ў партфель і выйшла на ганак. Яна жыла ў ваенным гарадку «Журжэва», да якога па вуліцы Гагарына шлях нябліскі. Таму Валін бацька дамовіўся з суседам, што яны па чарзе будуць забіраць дачок-аднагодак з заняткаў. У той вечар прыехаў сусед. Павітаўшыся з Валяй, папрасіў пачакаць, пакуль зойдзе ў школу за сваёй дачкой. Калі ж праз 10 хвілін яны вярнуліся, Скварцовай на ганку не аказалася. Не было яе і дома. Бацькі занепакоіліся і патэлефанавалі ў міліцыю. Два дні пошукаў выніку не далі. На трэці дзень старшакласнікі, прыбіраючы смецце за школьнымі адрынамі, натыкнуліся на мяшок з целам Валі. Дзяўчынку згвалтавалі і задушылі. Празнекалькітыднеў рэзанансным крымінальнай справай заняліся мінскія следчыя Генеральнай пракуратуры. Раскрыць яго, на жаль, не ўдавалася. У 1994 годзе расследаванне прыпынілі. Пазнаць імя забойцы ўдалося толькі праз чвэрць стагоддзя.

**Версіі і экспертызы**

Сёння палкоўнік Аляксей Белазор – пенсіянер. У аддзел па раскрыцці злачынстваў мінулых гадоў ўпраўлення крымінальнага вышуку крымінальнай міліцыі УУС Віцебскага аблвыканкама ён прыйшоў у 2005-м, але пра падзеі 1991-га ў СШ № 3 ведае практычна ўсё:

– Міліцыя тады, лічы, усю школу перавярнула,ператрэслі ўсе смеццевыя кантэйнеры, каналізацыйныя люкі, закінутыя адрыны і падвалы ў мікрараёне. Праверыла дзесяткі былых зэкаў, асуджаных за згвалтаванні і распусныя дзеянні. Адпрацоўвалася версія, па якой школьніцу быццам бы гвалтоўна пасадзілі ў белыя "Жыгулі" і звезлі. Безвынікова! Не змаглі тады вывесці і геном забойцы з спермы, выяўленай на куртцы ахвяры і мяшку. Нават у Нямеччыну і Расею біялагічны матэрыял адпраўлялі. Але тэхнічныя магчымасці ў той час былі сціплымі. Толькі групу крыві забойцы – II станоўчую – ўстанавілі. Шукалі такую ж у мужчын, якія мелі дачыненне да школы, але супадзеннеў не знайшлі.

Генатыпаскапічная экспертыза, прызначаная па крымінальнай справе ў 2007-м, таксама выніку не дала.

**Вынік, якога чакалі**

Забойства Валі Скварцовай перайшло ў разрад злачынстваў мінулых гадоў. Іх перыядычна вывучае Следчы камітэт. Прааналізаваўшы матэрыялы справы Скварцовай, у пачатку 2016 га намеснік начальніка ўпраўлення па расследаванні злачынстваў супраць асобы і грамадскай бяспекі галоўнага следчага ўпраўлення цэнтральнага апарата СК Аляксандр Цыганок прыйшоў да высновы, што расследаванне можна аднавіць, і прызначыў чарговую генатыпаскапічнай экспертызу. Вынік перасягнуў усе чаканні: экспертам атрымалася, нарэшце, вылучыць генатыпы двух чалавек, якія маглі быць датычныя да здзяйснення злачынства! Адзін з іх, па словах палкоўніка юстыцыі Цыганка, які ўзначаліў міжведамасную групу па раскрыцці крымінальнай справы, ужо значыўся ў базе праваахоўных органаў:

– Гаворка ідзе пра сліне і клетках скуры Яўгена Рабцава, якія знайшлі на рэчавыя доказы. Мы вывучылі яго асобу і высветлілі, што ў верасні 1991 года ён уваходзіў у брыгаду будаўнікоў, якія рабілі рамонт у школе.

Аднак супадзенне генатыпаў, распавядае Павел Дашкевіч, следчы па асабліва важных справах упраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці, яшчэ не падстава даставаць кайданкі і везці чалавека ў турму:

– Супадзенне – нагода, каб пільней прыглядзецца да чалавека. Высветлілі, якім чынам яго сляды апынуліся на месцы злачынства.

Дарэчы, падазрэнні з Рабцава знялі досыць хутка. Яго сляды на мяшку, у якім была схаваная ахвяра, апынуліся толькі таму, што ён увесь час кашляў і пляваўся з-за бесперапыннага курэння. Але, кажа Павел Дашкевіч, адпрацаваць трэба было яшчэ дзевяцярых калегаў Рабцава па будаўнічай брыгадзе:

– Практычна ўсе яны злоўжывалі спіртным. З-за нездаровай цягі да алкаголю дысцыпліна ў брыгадзе кульгала. Таму яна не справілася з рамонтам за лета і затрымалася ў школе да восені.

**Пачвара з бытоўкі**

Далей трэба зрабіць невялікае адступленне і расказаць пра асаблівасці працы крымінальнага вышуку. Калі памірае чалавек, пры выкрыцці трупа ў моргу, як правіла, бяруць ўзор крыві і захоўваюць яго пэўны час. Аляксей Белазор успамінае, што яшчэ ў 2011-м, правяраючы такія ўзоры, яго падапечныя звярнулі ўвагу на адзін з іх, які належыць нейкаму Міхаілу Нікіціну, што павесіўся ў Шумілінскім раёне ў 2005 годзе:

– Нас зацікавіла яго крымінальнае мінулае. У 1997 годзе на Шуміліншчыне ён забіў даярку – нанёс некалькі удараў нажом, галаву прабіў мантыроўкай. Цела схаваў у дрэнажнай трубе. Жорсткасць і выдасканаленасць злачынца наводзіла на думку, што за ім можа цягнуцца шлейф цёмных спраў. Таму яго кроў адправілі на экспертызу, каб вылучыць геном.

І аператыўнікі не пралічыліся. Менавіта ДНК Нікіціна супала з другім генатыпам, які ў 2016-м супрацоўнікі Дзяржкамітэта судовых экспертыз выявілі на рэчавых доказы, канфіскаваных з месца забойства школьніцы. Тады Нікіціна было 27. У брыгадзе, робіць рамонт у СШ № 3, ён быў зваршчыкам. Неўзабаве ён развёўся з жонкай і з'ехаў у Шумілінскі раён. Афіцыйная прычына разводу - п'янства. Аднак калі капнулі глыбей, адкрылася жудасная карціна. Напярэдадні разводу цешча Міхаіла стала сведкай таго, як ён гвалціць ўласную дачку. Дзяўчынцы было столькі ж гадоў, колькі і забітай Вале Скварцовай. Жонка Нікіціна маці не паверыла і ў міліцыю заяўляць не стала. А дарма..

Міхаіл адседзеў за забойства даяркі. Вызваліўся. А ў 2005-м падчас п'янкі на кватэры сужыцелькі замкнуўся ў ваннай і павесіўся.

Але як ён пазбег адказнасці ў 1991-м? Па словах Паўла Дашкевіча, ён уваходзіў у кола падазраваных. Аляксей Белазор мяркуе, што злачынец на вечар забойства выдумаў сабе алібі, маўляў, сышоў са школы ў 17.00, і абвергнуць яго супрацоўнікі праваахоўных органаў тады не змаглі:

– На самай жа справе ў той злапомны вечар брыгада выпівала ў бытоўцы ў школы. Калегі раз'ехаліся, а Нікіцін задрамаў. Калі прачнуўся, выйшаў на ганак і ўбачыў Скварцову. Згвалціў і задушыў ён яе ў бытоўцы. Цела ў мяшку для смецця перацягнуў у клас, дзе варыў трубы, і схаваў пад падлогай. Таму яго адразу не знайшлі. А пасля ноччу праз акно выцягнуў мяшок на двор. Лёс, вядома, пакарала гэтага маральнага вырадка. Па-іншаму назваць яго не магу. Але мне, калі шчыра, шкада, што забойца ня сталася, што на лаве падсудных.

І тым не менш, дзякуючы суладнай працы СК, МУС і Дзяржкамітэта судовых экспертыз справядлівасць перамагла. Бацькі даведаліся, хто вінаваты ў смерці іх дзіцяці. Аляксандр Цыганок упэўнены, што сучасная навука, развіццё тэхнічных магчымасцяў і новыя следчыя методыкі дазваляюць з поспехам вяртацца да перагляду падобных крымінальных спраў мінулых гадоў.

*Пераклад з расейскай рэдактара*

**sb.by**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ТАКАЯ ПРАПАГАНДА

# ПРОПАГАНДИСТСКИЙ ФИЛЬМ БТ — ВОПРОСЫ БЕЗ ОТВЕТОВ

**Белорусское телевидение раскрыло населению глаза на кровавые планы Статкевича и боевиков «Белого легиона». На телеканале «Беларусь 1» вечером 12 апреля показали очередной остросюжетный фильм — «Белый легион черных душ». Если коротко, то это рассказ о том, как доблестные отечественные спецслужбы на корню пресекли злокозненные планы врагов белорусской стабильности и предотвратили кровавый День Воли. Наконец, нам рассказали, что все-таки готовили так называемые боевики «Белого легиона» и кто ими руководил.**

Как и в случае с фильмом «Звонок другу», ставшим ответом на первые акции протеста против декрета «о тунеядцах», новый образчик телевизионной пропаганды представляет собой наскоро состряпанный винегрет из старых штампов-страшилок, перемешанных с оперативными съемками и сдобренных фантазией сценаристов.

Итак, анонимное «расследование» начинается с кадров в минском аэропорту, где силовики задают вопросы 47-летнему японцу Шамилю Цунеока Танаке, который называет себя журналистом. На деле же его подозревают в связях с исламскими террористами. Мужчина принял ислам, бывал во многих горячих точках — и Чечня, и Сирия, и Донбасс. 19 марта он прилетел из Киева в Минск, но белорусские пограничники из аэропорта его не выпустили, так как Танака находится в «черном списке». По версии БТ, он неслучайно приехал в Беларусь, якобы визит его связан с готовящимися провокациями против режима Лукашенко. При этом создатели пропагандистского видео не задаются вопросом, почему столь опасного «преступника» не задержали и не поместили в СИЗО КГБ, а отпустили на родину.

Видимо, авторы сенсационного «расследования» спешили показать зрителю ситуацию на других пунктах пропуска на белорусской границе, утверждая, что «последний раз такая напряженная обстановка была в июне 1941 года».

Дальше авторы остросюжетного фильма знакомят нас с фрау А., ставшей уже мемом в байнете. Напомним, газета «СБ.Беларусь сегодня» опубликовала заявление некой гражданки Германии на имя Лукашенко, в котором фрау сообщает о готовящихся в Минске 25 марта вооруженных провокациях. Гражданка эта, как утверждает президентская газета, пришла в посольство Беларуси в Берлине. Мол, ей случайно стал известен коварный план белорусской оппозиции. По словам фрау, существовало два сценария на День Воли. Первый — теракт в толпе, второй — террорист-смертник, который должен был себя взорвать. «Но белорусские силовики прошли проверку на бдительность», — спешит напомнить анонимный голос за кадром.

«А за чей счет банкет?» — спросит любопытный зритель. У авторов «расследования» есть ответ: протест должен был возглавить Николай Статкевич, который возьмет (или уже взял) деньги у своего украинского друга Александра Сманцера, а также эмигрировавших после Площади-2010 Дмитрия Бондаренко, Андрея Санникова и Натальи Радиной.

Обеспечить силовую поддержку Статкевичу, как заверяет БТ, должны были бойцы «экстремистской» организации «Белый легион».

После первых задержаний по так называемому делу «о подготовке массовых беспорядков» (или «делу патриотов», как его называют в негосударственных СМИ) возникло немало вопросов о том, как вообще связаны между собой задержанные, учитывая, что «Белый легион» прекратил свое существование еще в самом начале 2000-х. Анонимные авторы БТ подготовились: оказывается, «Белый легион» задумал свой коварный план еще в 1996 году и только притворился, что распался. На самом же деле под видом легальных патриотических клубов была организована целая конспирологическая сеть для свержения режима.

Кто выступил экспертами и комментаторами в фильме?

Во-первых, психолог Андрей Метельский. Он просмотрел несколько видео с участием обвиняемых по так называемому «делу патриотов» и пришел к выводу, что это «ролик подготовки белорусских шахидов» и, «короче, это нацизм».

Также с компетентным мнением выступил актер Владимир Гостюхин. Он пристыдил белорусскую оппозицию за то, что та живет на западные деньги. А певец Анатолий Ярмоленко призвал ценить то, что у нас есть. Мол, райскую жизнь нам никто не даст, но нужно ведь не допустить наступления ада. Анатолий Иванович не так давно имел неосторожность критически высказаться о декрете № 3, что не осталось незамеченным главой государства. Так что, похоже, народному артисту пришлось вернуться к риторике «Слушай батьку».

Кстати, о декрете. «Марши нетунеядцев», по мнению авторов «расследования» на БТ, — это хорошо спланированная акция Статкевича и его боевиков, чтобы заранее изучить, как себя будут вести силовики, как будет двигаться служебная техника, чтобы использовать это во время погромов на День Воли.

Журналисты БТ снова не отвечают на вопрос, как быть с протестами в регионах, где никогда не видели Статкевича и не получали от него по 20 долларов за участие в акции. Зато «расследователи» открывают нам глаза на задержания лидеров оппозиции накануне 25 марта.

Оказывается, Лебедько, Рымашевский, Губаревич и остальные оппозиционеры специально пошли на несанкционированные марши, чтобы на День Воли оказаться в изоляторах временного содержания и таким образом избежать участия в провокациях. Журналисты БТ, видимо, полагают, что в белорусском суде, как в ресторане, можно заказать, сколько суток ареста тебе назначат.

Несколько слов прозвучало по поводу Дмитрия Дашкевича. Голос за кадром заявил, что Дашкевич был связан с «Белым легионом», организовал «палаточный лагерь» в Зеленом луге. О том, что несколько палаток установили не «боевики», а защитники Куропат, авторы сюжета на БТ «скромно» умолчали.

Досталось от пропагандистов и независимым журналистам, которых в сюжете называют «информационной обслугой». Авторы фильма возмущены, что корреспонденты вели прямые трансляции с акций протестов, ставили под сомнение опубликованную в госСМИ информацию по «делу патриотов», критиковали действия властей.

Тем не менее, авторы «расследования» не дают ответов на ключевые вопросы. Во-первых, если во главе «революции» стоит Статкевич, почему он до сих пор на свободе. Во-вторых, если у активистов «Белого легиона» обнаружили столько «боевого» оружия, почему им не предъявили обвинения за незаконные действия в отношении огнестрельного оружия, боеприпасов и взрывчатых веществ? В-третьих, если «Белый легион» такая мощная и опасная организация, то почему власти разрешали их патриотические лагеря, почему спецслужбы не прикрыли эту лавочку раньше, а позволили ситуации перейти в критическую фазу?..

Возможно, «Белый легион черных душ» — не последняя копродукция БТ и КГБ, и в следующих фильмах сценаристы все же сумеют дать хоть сколь-нибудь убедительные ответы на возникшие вопросы. Потому что первые две попытки заставить белорусов поверить, что народ вышел на улицу не потому, что не может устроиться на работу или не может выжить на 200 рублей зарплаты, а потому что их использует Статкевич, даже если эти люди в глаза его не видели, не убедили.

*(скарочана)*

**Адарья Гуштын**
**naviny.by**




ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ЗАКЛІКАЛІ ЎЛАДЫ ЗЬМЯНІЦЬ РАШЭННЕ

**Віцебскія актывісты заклікаюць улады вызначыць у цэнтры гораду месцы для масавых мерапрыемстваў, дзе магчыма было б рэалізаваць куанстытуцыйнае права на правядзенне масавых мерапрыемстваў. Пасьля таго, як 25-га сакавіка намесьнік старшыні Віцебскага гарвыканкаму Пётра Падгурскі выйшаў на плошчу Перамогі і абвясьціў, што масавая акцыя забароненая, трое актывістаў пайшлі да яго на прыём. Бо Пётра Падгурскі тады прапанаваў зайсці да яго на прыём грамадзянам са сваімі праблемамі.**

Адзін зь іх, абласны каардынатар Руху «За свабоду» Леанід Гаравы, расказаў:

«25-га сакавіка спадар Падгурскі абвясьціў, што запрашае ахвотных грамадзянаў да сябе на прыём. Канстанцін Смолікаў, прадстаўнік Партыі БНФ, Анатоль Родзік з партыі левых „Справядлівы сьвет" і я ўтрох пайшлі ў гарвыканкам. Размаўлялі наконт рашэньня гарвыканкаму № 881, пасьля прыняцьця якога з 2009 году ў Віцебску не было дазволена ніводнай масавай акцыі з ініцыятывы дэмакратычных актывістаў. Мы выказалі свае прапановы.

Першая — каб зьмяніць гэтае рашэньне, склікаўшы дзеля распрацоўкі зьмен адмысловую камісію з прадстаўнікоў грамадзкасьці і ўладаў. Другая — каб вызначыць для масавых мерапрыемстваў месцы ў цэнтральнай частцы гораду, як патрабаваў Лукашэнка. І каб дазволы на мерапрыемствы выдаваліся паводле заяўнага прынцыпу, а не на падставе заключэньня платных дамоваў зь міліцыяй, мэдыкамі і службамі ЖКГ. Бо грамадзяне не павінны плаціць грошы за карыстаньне сваім канстытуцыйным правам!»

Сустрэча ў гарвыканкаме адбылася 27 сакавіка, і 29-га прапановы ў пісьмовым выглядзе былі накіраваныя ў гарвыканкам. З аналягічнымі прапановамі спадар Гаравы ужо зьвяртаўся да старшыні Віцебскага аблвыканкаму Мікалая Шарсьнёва, калі адклікаў свой подпіс пад заяўкай на сьвяточныя акцыі да Дня Волі. Адказу ён пакуль не атрымаў.

Што да спробаў дамагчыся зьменаў у рашэньне гарвыканкаму № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску», то цягам апошніх гадоў актывісты рабілі іх неаднаразова. Былі і звароты ў суды, і ў пракуратуру, і ў міністэрствы, аднак адусюль прыходзілі адмовы. Маўляў, рашэньне прайшло юрыдычную экспэртызу, знаходзіцца на ўліку ў рэестры прававых актаў, а значыць, на думку чыноўнікаў, яно бездакорнае.

У такой сытуацыі, калі зьмяніць наяўнае рашэньне не атрымліваецца, застаецца дамагчыся, каб чыноўнікі выконвалі заданьне Аляксандра Лукашэнкі. На нарадзе 9 сакавіка ён даручыў міністру ўнутраных спраў Ігару Шуневічу вызначыць месцы ў цэнтральных частках гарадоў, дзе грамадзяне мелі бы магчымасьць вольна выказвацца аб існых праблемах.

**БС**
**www.svaboda.org**

ПОГЛЯД

# БЕЛАРУСЫ ЗДОЛЕЛІ ПЕРААДОЛЕЦЬ СТРАХ?

**У мінулым месяцы беларусы здолелі моцна здзівіць саміх сябе. Тысячы людзей выйшлі на цэнтральныя плошчы і вуліцы сваіх гарадоў. Такіх шырокіх пратэстаў мы не бачылі шмат гадоў, што робіць цяперашнюю сітуацыю ўнікальнай. Што здарылася з намі і як раптам мы ператварыліся ў палітычна актыўную нацыю?**

Нагодай для пратэсту стаў падатак на беспрацоўе. Але на плошчах на мінулым тыдні гучалі самыя розныя лозунгі. Многія патрабавалі зменаў эканамічнай палітыкі, нехта — адстаўкі Лукашэнкі, нехта — адмены ўсіх падаткаў увогуле, а нехта проста хацеў нарэшце атрымаць свае сакральныя 500 даляраў заробку. Нехта прыйшоў з бел-чырвона-белым сцягам ці нават у шапцы з расейскім трыкалорам, а нехта, наадварот, паспрабаваў ад любых сцягоў стаць далей. Нехта размаўляў па-беларуску, а нехта заставаўся верным расейскай. У такім багацці адценняў і гукаў беларускага пратэсту няма нічога дзіўнага. Менавіта гэтак і выглядаюць сучасныя пратэсты. І адна з прычынаў гэтага — імклівы распаўсюд інтэрнэту.

**Пратэсты лічбавай эпохі**

Ці здолелі арганізатары пратэстаў супраць падатку скарыстацца такім ростам разнастайнасці і цікаўнасці беларускай аўдыторыі да кантэнту сацыяльных сетак, застаецца вялікім пытаннем. Некаторыя сустрэчы ў Фэйсбуку, якія заклікалі выйсці на вуліцы, не мелі і 1 000 лайкаў. Але часам пасты, здавалася б, забытых апазіцыйных палітыкаў з запрашэннем прыйсці на пратэст мелі да 50 расшарванняў.

Многія з гэтых пастоў і сустрэчаў былі створаныя літаральна за некалькі гадзін да запланаваных пратэстаў. Але так дзейнічалі не ўсе. Былі і актывісты, якія працавалі з тэмай падаткаў на беспрацоўе ўжо некалькі месяцаў. Напрыклад, гомельскі актывіст Адрэй Стрыжак распачаў некалькі кампаній супрацьстаянню дэкрэту № 3. Сабраў разам з паплечнікамі 23 тысячы электронныхподпісаўсупрацьдэкрэту, а таксама спрычыніўся да першага ў Беларусі суда супраць дзяржавы пра дэкрэт. Вядома, суд адбыўся ў Гомелі.

Урэшце, хто б ні мабілізаваў людзей на пратэст, многія з іх калі не даведаліся, то атрымалі магчымасць абмеркаваць яго і паглядзець на іншых ягоных прыхільнікаў менавіта ў інтэрнэце. Асаблівасцю сацыяльных сетак ёсць іх магчымасць даваць кожнаму быць тым, кім ён там хоча быць. І гэта магчымасць распаўсюджваецца на пратэсты.

Калі мы лайкаем ідэю сабрацца недзе ці падпісаць петыцыю, мы часта робім гэта з уласных перакананняў і ўяўленняў пра нагоду для такіх дзеянняў. Нехта робіць гэта з марай аб змене рэжыму, а нехта проста ад злосці на эліты. Усе гэтыя гамы пачуццяў і ўяўленняў пазней зліваюцца ў адзінае мора пратэсту — тое самае мора з бел-чырвона-белымі сцягамі і шапкамі з трыкалорам. Але ў анлайн мы не бачым гэтай балючай разнастайнасці ідэй. Мы бачым заклік, магчыма, малюнак і тэкст, які адбіваецца ў нас у галаве нечым сваім. Мы націскаем лайк і... гэтак, магчыма, упершыню ў нас заражаецца ідэя далучэння да пратэсту.

**Беларусы нарэшце пераадолелі страх**

Адна з галоўных палітычных умоваў узнікнення пратэсту палягае ў з'яўленні акна магчымасцяў.

Вядучыя навукоўцы ў галіне пратэставай палітыкі кажуць, што такія вокны ўзнікаюць даволі рэдка. І гэта ўжо справа тых, хто хоча актывізаваць людзей на пратэст, як гэтымі магчымасцямі скарыстацца. Пратэстоўцы ў абласных гарадах Беларусі здолелі зрабіць гэта найлепшым чынам. Яны паспрабавалі мабілізаваць людзей у момант надыходу дэдлайну на аплату ненавіснага падатку — 20 лютага. Прыпала гэта дата на перыяд, калі беларускія ўлады, здаецца, страцілі ўсялякую цікаўнасць да палітычных рэпрэсій, арыштаў падчас палітычных акцый і падобных дзеянняў.

Але арганізацыя і распаўсюд інфармацыі аб пратэсце і непасрэднае з'яўленне людзей на вуліцах — рэчы абсалютна розных катэгорый. І аддзяляе гэтыя дзве катэгорыі адна вельмі важная з'ява, знаёмая, напэўна, кожнаму беларусу, — страх. Страх выйсці на вуліцу, на плошчу — гэта адзін з самых моцных дэматыватараў, што звычайна спыняў людзей ад падобных калектыўных дзеянняў, якія мы нарэшце змаглі пабачыць на мінулым тыдні. Чаму многія беларусы раптам здолелі пераадолець свой страх?

Прыклады нядаўніх масавых пратэстаў у Іспаніі і арабскіх краінах уражваюць сваім падабенствам. Амаль заўжды на вуліцы выходзілі сотні тысяч людзей, раз'юшаныя і прыніжаныя адсутнасцю сацыяльнай справядлівасці і крывадушнасцю элітаў. Гэтая раз'юшанасць дазволіла людзям пераадолець пачатковы страх рэпрэсій, каб разам акупаваць важныя пляцоўкі і прасторы ў цэнтры сваіх гарадоў і распачаць пратэст. Першы поспех пратэстаў — захопленыя, хоць і часова, грамадскія прасторы як Кастрычніцкая плошча ў Мінску і галоўны мінскі праспект — дазволіла трансфармаваць раз'юшанасць у надзею. Менавіта таму пасля скачэння пратэстаў многія з іх удзельнікаў і назіральнікаў так пазітыўна ўспрынялі гэтыя падзеі. Ніводнае з патрабаванняў пратэстоўцаў не было выкананае. Але ж факт часовага захопу важнай грамадскай прасторы нарадзіў вялікія спадзяванні на выкананне патрабаванняў у будучыні ці хаця б магчымасць бесперашкодна выказвацца ў гэтай грамадскай прасторы надалей.

**Што рабіць далей**

Адсутнасць рацыянальных падлікаў на пачатковых этапах масавых рухаў мае і свае адмоўныя бакі. Напэўна, галоўны палягае ў тым, што большасць пратэстоўцаў не пралічвае наступных крокаў, якія б прывялі да выканання іхніх патрабаванняў. А між тым адным з найбольш важных крокаў мусіла б стаць яднанне разрозненых пратэставых актыўнасцяў у адзін супольны рух.

Гэты рух можа яднаць розныя погляды на краіну, уладу, сцяг і герб, мову і культуру. І гэта абсалютна нармальна ў час лічбавых медыя. Але ён мусіць быць здольным вылучыць лідараў для палітычнага прадстаўніцтва. Супольныя дзеянні звычайна толькі тады аказваюцца паспяховымі, калі яны вядуць да з'яўлення прадстаўнікоў руху, якія ўключаюцца ў палітычны працэс і пачынаюць размаўляць з уладамі.

Хоць некаторыя пратэсты фармальна і былі ўзначаленыя старымі і вядомымі дзеячамі, такімі як Статкевіч і Някляеў, пратэст вылучыў і некалькі новых цікавых фігураў. Гэта той жа Андрэй Стрыжак, гэта гомельскі блогер Максім Філіповіч, які мае больш за 24 000 падпісчыкаў у сваім блогу на YouTube. Гэта дзясяткі іншых актывістаў, імёны якіх мы яшчэ не ведаем. Але ёсць шанец, што нам давядзецца вельмі хутка вывучыць іх.

**Алесь Герасіменка**
**nn.by**

ПРАЦОЎНАЯ ІМІГРАЦЫЯ

# КАК ЗАРАБАТЫВАЮТ ВИТЕБСКИЕ СТРОИТЕЛИ В ПОЛЬШЕ

**Многие витебские строители, которые отчаялись найти хорошо оплачиваемую работу по специальности в родном городе, отправляются на заработки в соседние страны. И если раньше они ездили, в основном, только в Россию, то сегодня все больше наших соотечественников отправляются покорять Польшу.**

Антон: «Еще несколько лет назад работать в России было выгодно. Особенно на строительстве олимпийских объектов в Сочи. Туда мы с друзьями ездили почти два года, неплохо заработали и даже побывали на олимпиаде — нам выдали паспорта болельщиков. Но сегодня в России белорусам делать нечего: расценки очень упали. Думаю, из-за того, что желающих трудиться хоть отбавляй. Причем не только белорусов, но и украинцев, и азиатов. А смысл платить больше, если люди готовы работать за меньшие деньги?».

Оценив предложения белорусских, российских и польских работодателей, Антон с тремя товарищами решили отправиться в Польшу. Тем более, что была возможность трудоустроиться официально: заключили контакт в витебской фирме и поехали в город Колобжег на побережье Балтийского моря. До Варшавы ребятам нужно было добраться за свой счет, а оттуда расходы на дорогу взял на себя работодатель.

Витебские строители в Польше работали на каркасно-монолитном строительстве. Заранее было оговорено: рабочий день с семи утра до шести часов вечера (суббота — до двух часов), выходной — воскресенье, обед — полчаса, а с 10.00 до 10.30 часов предусмотрен второй завтрак.

Обед и проживание — бесплатно, а вот за завтраки и ужины, которые, также как и обеды, привозят прямо на работу, в месяц нужно заплатить 400 злотых. Кормят, по словам Антона, в Польше вкусно и сытно. А вот в выходной день — в воскресенье о пропитании частично нужно позаботиться самим: от фирмы привозят лишь обед. Рабочим выдают авансы. Раньше каждую неделю выплачивали по 100-150 злотых, а в последнее время два раза в месяц, 10-го числа зарплата и 24-го — аванс, перечисляются деньги на банковскую карту, которой можно пользоваться как в Беларуси, так и в Польше.

Если тебе нужен дополнительный выходной — можно договориться. Но если предстоит заливать бетон, то приходится и до ночи работать. Каждый час переработки — оплачивается.

По словам Антона, если в России платили сдельную зарплату — сколько сделал, столько и заработал, то в Польше оплата строителя почасовая — 14 злотых за час (приблизительно 6,3 белорусских рублей). Сколько стоит восьмичасовой рабочий день — посчитать нетрудно.

Правда, в конце месяца рабочим выставляют коэффициент трудового участия (КТУ). Если он будет меньше единицы, то и оплата за час меньше 14 злотых, если больше — соответственно и зарплата возрастает. Причем, польские работодатели лояльно относятся к строителям из Беларуси — случаи понижения коэффициента за работу довольно редки.

«К белорусам в Польше относятся неплохо. Хочешь и можешь работать — зарабатывай. Нужен выходной — бери. Хочешь съездить домой — предупреди и едь, хоть и на две недели. Мало ли какие бывают обстоятельства. Тебе же хуже — меньше заработаешь. Довольно строго здесь только с алкоголем. В свободное время выпить тебе никто не запрещает. Но после выходного, в понедельник утром, на объект может приехать человек с алкотестером. Дважды прибор покажет превышение — отправляйся домой. По поводу перекуров на работе — все не так строго. Поляки понимают, что много ты все равно не покуришь: сигареты здесь стоят в три раза дороже, чем в Беларуси. А такого понятия, как „стрельнуть сигарету", в Польше и вовсе не существует — поляки всегда ответят, что у них нет, даже если только что закурили из полной пачки».

В целом ребята всем довольны, и отказываться от работы в Польше и ехать на заработки в Россию не собираются, тем более, что здесь они оформлены официально, а, значит, налог на тунеядство в Беларуси им не грозит. Конечно, они очень скучают по семьям. Например, у Антона в Витебске остались жена и сын. Но что поделаешь, если в родном городе столько не заработаешь, приходится крутиться.

**Саша Май**
**vkurier.by**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 16.04.2017 у 17.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.